# НАВІНЫ Беларускай акадэміі



Штотыднёвая газета Акадэміі навук БССР

Выходзіць з кастрычніка 1979 г. • № 10(590) • Пятніца, 15 сакавіка 1991 г. • Цана 5 кап.





**Сёння ў нумары:**

Цуд другога нараджэння гісторыі, альбо Думкі над археалагічным раскопам. Стар. 2

Дзе вытокі гістарычнага бяспамяцтва? Стар. 4

Свет сімвалаў і знакаў Францішка Скарыны. Стар. 5—6


НАВІНА Ў НУМАР

# АГУЛЬНААКАДЭМІЧНЫ СХОД

6 сакавіка ў вялікай канферэнц-зале АН БССР адбылася сесія Агульнага сходу Акадэміі навук БССР.

Вострыя праблемы аднаўлення і ўдасканалення даследчай работы, пераход на новыя ўмовы гаспадарання і фінансавання ў сувязі з наданнем Акадэміі навук БССР новага статута і шматлікія іншыя вострыя пытанні дзейнасці вучоных буйнейшай навуковай установы рэспублікі былі ў цэнтры ўвагі ўдзельнікаў гэтага сходу. Акрамя таго, на ім былі падведзены вынікі мінулага году, намечана праграма дзейнасці на бліжэйшую перспектыву.

З уступным словам выступіў прэзідэнт Акадэміі навук БССР акадэмік У. П. Платонаў.

Аб асноўных выніках развіцця навукі і дзейнасці аддзяленняў АН БССР за 1990 год і задачах на перспектыву далажылі сходу акадэмікі АН БССР Л. І. Кісялеўскі, С. А. Астапчык, У. С. Камароў, Л. М. Сушчэня і член-карэспандэнт АН БССР С. В. Марцэлеў.

Даклад «Аб рабоце прэзідыума АН БССР за справаздачны перыяд» зрабіў галоўны вучоны сакратар прэзідыума АН БССР акадэмік АН БССР А. М. Ганчарэнка.

У спрэчках выступілі: віцэ-прэзідэнт АН БССР, акадэмік АН БССР А. В. Сцепаненка; акадэмік АН БССР, загадчык кафедры Белдзяржуніверсітэта А. А. Міхайлаў; акадэмік АН БССР, дырэктар Інстытута эксперыментальнай батанікі імя В. Ф. Купрэвіча В. І. Парфёнаў; акадэмік АН БССР, намеснік дырэктара Інстытута фізікі імя Б. І. Сцяпанава А. М. Рубінаў; віцэ-прэзідэнт АН БССР, акадэмік АН БССР І. І. Ліштван; член-карэспандэнт АН БССР, загадчык лабараторыі Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі Ф. іФ. Мажэйка; акадэмік АН БССР, дырэктар Інстытута эканомікі АН БССР Г. М. Лыч; акадэмік АН БССР, рэктар БПІ В. М. Чачын; акадэмік М. А. Барысевіч; акадэмік АН БССР, дырэктар Інстытута цепла- і масаабмену імя А. В. Лыкава А. Р. Мартыненка; акадэмік АН БССР, намеснік дырэктара Інстытута матэматыкі І. В. Гайшун; акадэмік АН БССР, дырэктар Беларускага рэспубліканскага НВА парашковай металургіі А. У. Раман; член-карэспандэнт АН БССР А. М. Шырокаў; член-карэспандэнт АН БССР, міністр адукацыі БССР М. І. Дзямчук.

## Зварот камуністаў

СУАЙЧЫННІКІ!

Упершыню ў нашай краіне праводзіцца ўсенародны рэферэндум — аб лёсе нашай дзяржавы. На галасаванне выносіцца пытанне, якое сфармулявана гранічна выразна: «Ці лічыце вы неабходным захаванне Саюза Савецкіх Саыялістычных Рэспублік, у якім будуць у поўнай меры гарантаваны правы і свабоды чалавека кожнай нацыянальнасці?» І адказаць на яго трэба адназначна: ТАК або НЕ.

Робячы свой выбар 17 сакавіка, ПАМЯТАЙЦЕ пра тое, што Беларуская ССР з'яўляецца адной з заснавальніц нашага Саюза, ПАМЯТАЙЦЕ пра агульныя славянскія карані беларускага, рускага і украінскага народаў, якія складаюць аснову, касцяк нашай федэрацыі. ПАМЯТАЙЦЕ пра тое, што больш 60 млн. чалавек — звыш 1/5 насельніцтва Савецкага Саюза — жыве за межамі сваіх этнічных тэрыторый. Не з'яўляецца выключэннем і Беларусь. Тут жыве 2,5 млн. чалавек некарэннай нацыянальнасці. Толькі жыхарамі Мінска з'яўляюцца прадстаўнікі 99 нацый і народнасцей. У той жа час за межамі рэспублікі пражывае 2,4 млн. беларусаў. Які лёс — «мігрантаў», «акупантаў» або раўнапраўных грамадзян мы выберам для гэтых людзей 17 сакавіка? ПАДУМАЙЦЕ! Ужо зараз Беларусь прыняла звыш 1,5 тыс. бежанцаў!

Нам, як паветра, патрэбна абнаўленне — эканамічнае, палітычнае, сацыяльнае, культурнае. Але яно магчыма толькі ў Саюзе — федэрацыі свабодных, на справе роўных рэспублік, якія разам вырашалі б задачы абнаўлення нашага грамадства. Спробы сарваць рэферэндум яшчэ больш абвостраць міжнацыянальныя канфлікты, прывядуць да працяглай міжусобіцы, да эканамічнай катастрофы, падзення жыццёвага ўзроўню людзей. ПАМЯТАЙЦЕ ПРА ГЭТА 17 САКАВІКА!

Ад вашага рашэння залежыць лёс нашай краіны, лёс нас, нашых дзяцей, усіх будучых пакаленняў!

*Савет сакратароў партыйных арганізацый АН БССР.*

ПОСЛЕ СОБЫТИЯ

# ВЫБОРЫ СОСТОЯЛИСЬ, ВЫБОР СДЕЛАН.



Президиум Академии наук Белорусской ССР сообщает, что на состоявшихся выборах в Академию наук БССР 1 марта 1991 г. избраны АКАДЕМИКАМИ АН БССР: Гайшун Иван Васильевич (дифференциальные уравнения и процессы управления), Достанко Анатолий Павлович (микроэлектроника), Лобанок Анатолий Георгиевич (микробиология), Лыч Геннадий Михайлович (экономика), Мартыненко Олег Григорьевич (теплофизика), Михайлов Анатолий Арсеньевич (философия), Роман Олег Владиславович (порошковая металлургия и композиционные материалы), Рубинов Анатолий Николаевич (лазерная физика);

ЧЛЕНАМИ-КОРРЕСПОНДЕНТАМИ АН БССР: Евменов Леонид Федорович (социология, философия), Залесский Александр Ефимович (алгебра, геометрия), Майер Николай Артемьевич (органическая химия), Матвеев Алексей Васильевич (геология), Можейко Фома Фомич (коллоидная химия), Мушинский Михаил Иосифович (литературоведение), Плескачевский Юрий Михайлович (механика металлополимерных систем), Решетников Владимир Николаевич (физиология и биохимия растений), Румак Николай Владимирович (технология микроэлектроники), Руцкий Александр Владимирович (медицина), Чайка Мария Тихоновна (физиология и биохимия растений), Шушкевич Станислав Станиславович (радиоспектроскопия).

Поздравляем вновь избранных академиков и членов-корреспондентов Академии наук БССР!

*На снимках: во время выборов в действительные члены и члены-корреспонденты АН БССР.*

Фото М. ХОМЦА.



ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# О РЕФЕРЕНДУМЕ И СОЮЗНОМ ДОГОВОРЕ

Накануне референдума о сохранении Союза ССР хотелось бы высказать несколько замечаний. Во-первых, мне представляется, что обновлять союзный договор нужно, и нужно было это сделать года на два раньше. Территория нынешнего Союза и общность народов, проживающих на этой территории, формировались в течение столетий. У народов Советского Союза много общего не только в экономических связях, но и в культуре, истории и обычаях. У большинства народов существовала и существует единая православная религия.

Во-вторых, за последние десятилетия сформировалась такая структура народного хозяйства республик, что ни одна из них не может существовать независимо от других. Если даже какая-то республика и захочет войти самостоятельно в мировую экономическую систему и мировой рынок, то для этого нужно, по меньшей мере, десяток лет на изменение структуры и промышленности, и сельского хозяйства.

В-третьих, вопросы обороны, энергетики, транспорта, связи и некоторые другие надежней, дешевле и проще организовать сообща. Иногда говорят, что, например, Белоруссия должна иметь свои вооруженные силы и сама себя защищать. Но в наше время одной пехотой не обойдешься. Без стратегической авиации, стратегических ракетных войск и других современных родов войск безопасность трудно гарантировать. А иметь такие войска одной республике не под силу. Думаю, что нет нужды доказывать, что и многие другие вопросы жизнедеятельности республик невозможно решать в одиночку. Мне представляется, что многим это понятно и что подавляющее большинство белорусского народа выскажется за Союз.

По проекту Союзного договора есть некоторые замечания. Договор должен быть краток, лаконичен. Это, фактически,— декларация. Он не должен содержать всех определений и подробных перечислений. В нынешний проект договора пытаются включить как можно больше информации, очевидно, это вызвано появившимся сейчас определенным недоверием республик друг к другу.

В отношении гражданства. Я полагаю, что граждане, живущие в республике, могут иметь гражданство этой республики и обязательно гражданство СССР. Когда мы едем за границу, нас знают и уважают вначале как граждан СССР, а потом соответствующей республики.

Очень сложный вопрос о собственности республик и Союза. Так, земля и ее недра объявляются собственностью республик, и республики при этом не должны препятствовать реализации полномочий Союза. Но, представьте, что нужно построить железную дорогу или союзную автостраду. Как быть с соответствующей землей? А как быть с землей, на которой расположены союзные предприятия и т. д.? Если уж республики добровольно объединяются в Союз, то мне представляется, что нужно записать в договоре, что республики землей, недрами и т. д. владеют совместно, по согласованию между собой.

Еще более запутан вопрос о собственности на союзные предприятия. Думаю, что если и удастся как-то определить, что относится к собственности Союза, а что к республикам, то это нужно дать только приложением к тексту договора.

Что касается науки, то безусловно должна быть соблюдена координация науки в масштабах Союза. Наука едина.

В отношении образования. Я бы жестко не требовал, чтобы от Бреста до Сахалина была одна система народного образования. В каждой республике есть свои особенности, и нужно их учитывать.

А. ГОНЧАРЕНКО,
главный ученый секретарь
президиума АН БССР,
академик АН БССР.

ГІСТОРЫЯ РОДНАГА КРАЮ

# ЦУД ДРУГОГА НАРАДЖЭННЯ ГІСТОРЫІ,

## *альбо Думкі над археалагічным раскопам*

**«А Полацак на Дзвіне і Палаце драўляны»,— так на адной з першых старонак летапісу прыгадваецца самы старажытны ў нашай рэспубліцы горад, які не так даўно адзначыў 1125 год.**

**Гады і стагоддзі, як тыя вятры, праносяцца над зямлёю. Растуць гарады і вёскі, разбураюцца старажытныя муры і ўзводзяцца новыя, знішчаюцца войнамі, а ствараюцца людзьмі. Гісторыя любога народа ніколі не бывае роўнаю. Яна, быццам марская хваля, мае свае вышыні і спады, коціцца невядома адкуль.**

**Так, відаць, было і ў тыя далёкія часы, з якіх мы адлічваем сваю гісторыю, калі прыйшлі на Беларусь крывічы і нехта з іх сказаў: «Бысць тут граду!». І пабудавалі Полацк.**

Ніводзін летапіс таго часу не раскажа, як узнікалі гарады, колькі было людзей, чым яны займаліся,— гэта іх не цікавіла. Летапісныя старонкі скрозь заліты братняй і чужой крывёю, запоўнены гісторыяй князёў, іх ваеннымі і духоўнымі подзвігамі, многія старонкі прысвечаны царкве. А тым часам нараджаліся новыя гарады, вызначаліся межы магутных дзяржаў і дробных княстваў.

Полацк узнікае ў VIII—IX ст.ст. як палітычны і эканамічны цэнтр полацкіх крывічоў і ўзнікае на тэрыторыі, якая раней належала балтам днепра-дзвінскай культуры. На пытанне, дзе гэта адбылося, дзе сцены першапачатковага горада,— адказаць могуць толькі археолагі.

...Убаку ад мітуслівага сучаснага горада, пад разгалістымі стогадовымі дубамі ідзе няспешная работа. Узброеныя нажамі і пэндзалямі, стоячы на каленях ці прысеўшы на кукішкі, здабываюць вучоныя самыя дарагія і каштоўныя скарбы — рэчы, якімі тысячу год назад карысталіся нашы далёкія продкі. У раскопе, куды нават у светлы жнівеньскі дзень не заўсёды трапляе сонца, адбываецца цуд другога нараджэння гісторыі.

Вось месца, дзе існаваў пасад — акольны горад Полацка IX—X ст. ст. Побач цячэ імклівая Палата, за якой знаходзіцца ўмацаванае старажытнае полацкае гарадзішча. Калі глянуць у другі бок, на поўдзень, можна ўбачыць спічастыя гмахі велічнага Сафійскага сабора, што стаіць на самым узбярэжжы Дзвіны.

Гісторыя Полацка вывучаецца даўно. Здавалася б, вялікіх таямніц не засталося. Але тое, што было знойдзена вучонымі за апошнія гады, прымусіла здзівіцца.

З мінулых даследаванняў было вядома, што горад да X ст. складаўся з гарадзішча плошчаю каля 0,8 га і селішча — 0,3 га. Памеры апошняга былі на дзіва малымі. Полацк таго часу — адзін з самых вядомых гарадоў паўночна-усходняй Еўропы. Ён прыгадваецца ў летапісах разам з Ноўгарадам, Псковам, Смаленскам. Добра вядомы скандынавам як буйны гандлёвы цэнтр, яго наведваюць варажскія дружыны і гандляры. Полацк з'яўляецца цэнтрам магутнай дзяржавы, падтрымкі якой шукалі многія навакольныя валадары. Фактычна за яго ў 980, ці як некаторыя лічаць, у 970 годзе, разгарэлася барацьба паміж Яраполкам Святаславічам, кіеўскім князем, і яго братам Уладзімірам наўгародскім. Знешнім повадам паслужыла сватанне абодвух князёў да полацкай князёўны Рагнеды і яе адмова Уладзіміру. Той, хто валодаў Полацкам, трымаў у сваіх руках не толькі значную частку зямель, але і выхад да Варажскага — Балтыйскага — мора, адну з галін знакамітага шляху з «вараг у грэкі».

І раптам — агульная тэрыторыя такога горада толькі адзін гектар, у той час як Пскова — 2,5 га, Смаленска — 5 га, Ноўгарада — 7 га, Кіева — 11 га.

Неадпаведнасць тэрытарыяльных памераў і той ролі, якую адыгрываў Полацк ужо ў першыя стагоддзі свайго існавання, прымушала вучоных пільна шукаць дадатковыя рэшткі старога горада. На тэрыторыю Ніжняга замка даследчыкі прыходзілі не аднойчы. Але знайсці некранутыя, не сапсаваныя пазнейшымі перакопамі і будаўніцтвамі слаі не шчасціла.

І вось у 1986, а пасля ў 1989—90 гг. былі праведзены новыя археалагічныя даследаванні. Першы ж невялікі разведачны раскоп прынёс вучоным доўгачаканыя знаходкі — посуд, зроблены без дапамогі ганчарнага кола. Такі посуд з'яўляецца надзейным датуючым матэрыялам, таму што ганчарнае кола з'явілася на тэрыторыі Усходняй Еўропы толькі ў X ст.

Каб пранікнуць у тайну стагоддзяў глыбей, раскоп пашырылі, заклалі некалькі новых раскопаў. Высветлілася, што знойдзены акольны горад IX—X ст.ст. па плошчы займаў каля 6 га. Тэрыторыя пасада была даволі шчыльна забудавана.

Раскопкамі ўскрыты рэшткі жылых пабудоў палачан. Іх старажытныя хаты ў адрозненне ад сучаснага жытла, якое мае свой прататып у XII—XIII ст. ст., мелі ў сваёй аснове слупы каркаса, якія ставіліся па перыметры і ў цэнтры. Слупы злучаліся паміж сабою пакладзенымі гарызантальна бярвеннямі і ўтваралі сцены, цэнтральныя трымалі дах. У кожнай хаце была печ або вогнішча. Раскопкамі даследавана некалькі такіх знаходак. Печы выкладаліся з каменняў рознага памеру на драўляным апечку і абмазваліся глінаю. Адна з іх была вельмі цікавая. Такая, як і ўсе, але ў самым нізе, у яміне,— слой гною. Ён сведчыць аб тым, што у тыя далёкія часы было традыцыяй у халодныя зімовыя месяцы трымаць жывёлу ў хаце.

А вось па ярка-жоўтым мацерыковым пяску размясціўся ланцужок невялікіх ямак. Паміж імі аднолькавая адлегласць. Аднолькавы і памер ямак. Гэта — рэшткі агароджы. Укапаныя ў зямлю невялічкія слупочкі ахоўвалі жытло гараджаніна і яго сям'і.

Было знойдзена шмат рэчаў, якімі карысталіся палачане ў мінулым. Гэта ўжо названы ляпны посуд, наканечнікі дзідаў, невялікіх коп'яў, бронзавыя кручаныя з дроту пярсцёнкі і інш. Асаблівую цікавасць выклікала знаходка, якая не звязана непасрэдна з матэрыяльнай вытворчасцю і адлюстроўвала ў нейкай ступені вераванні нашых продкаў. Відома, што VIII—X ст.ст.— гэта час да прыняцця хрысціянства, час, калі панавала паганская рэлігія.

Гэта знаходка — каменная сякера. У VIII—X ст. ст. такімі сякерамі даўно ўжо не карысталіся, бо ўмелі рабіць больш зручныя і трывалыя — з жалеза. Але як яна трапіла ў культурны слой феадальнай пары, што прымусіла чалавека занесці гэтую выпадковую рэч у хату? Варта звярнуцца да этнаграфіі, якая сведчыць аб існуючым да нашага часу паданні, быццам каменныя сякеры — гэта «стрэлы» Перуна, або хрысціянскага Іллі, якія той кідаў з неба на зямлю. «Стрэлы» лічыліся святымі, і знайсці іх было шчасцем, як і падкову. З пакланення маланцы і Перуну вынікалі і адносіны людзей да «стрэл». Яны захоўваліся ў хатах і «засцерагалі» чалавечае жытло і самога чалавека ад розных бед. Сведчаннем старажытнасці культа Перуна, глыбокіх каранёў народнага ўяўлення аб прыродзе і з'яўляецца гэта знаходка.

Але бадай самым дзіўным і нечаканым у даследаваннях Полацка апошніх год былі знаходкі ювелірных майстэрняў. Аб тым, што старажытны горад быў буйным рамесніцкім цэнтрам, ведалі даўно. Можна было чакаць, што і ювелірнае майстэрства ў горадзе было на высокім ўзроўні. Прыгадайма хоць бы крыж Лазара Богшы для Спасскай царквы новага манастыра, які быў заснаваны Ефрасінняй Полацкай. Аб тым жа сведчыла і знаходка ў 1984 г. на гарадскім стадыёне «Спартак» залатога рэчавага скарба X ст.

Гэты скарб складаўся з ювелірных вырабаў: бранзалетаў і кавалка шэйнага абруча-грыўні. У той жа шэраг можна паставіць знойдзенья падчас археалагічных раскопак каменны абразок з выявай візантыйскага імператара Канстанціна і яго жонкі Алены — XII ст., шматлікія ліцейныя ювелірныя формачкі, прывескі, бубенцы, пацеркі, пярсцёнкі і г. д.

Але не было выпадку, каб археолаг мог з упэўненасцю сказаць, што вось тут, на гэтым месцы жылі і працавалі ювеліры. Такую магчымасць далі раскопкі ў Полацку на Вялікім пасадзе 1987—1988 гг. і на старажытным селішчы 1989—1990 гг.

У 1987 г. упершыню з'явілася магчымасць правесці ў поўным аб'ёме археалагічныя даследаванні на полацкім Вялікім пасадзе. Наколькі важная гэтая тапаграфічная частка старадаўняга горада, мяркуйце самі — напрыклад, у Ноўгарадзе больш за 500 берасцяных грамат, майстэрня жывапісца Алісея Грэчына і многае іншае было знойдзена менавіта на пасадзе. На пасадах жыла асноўная колькасць гараджан. Але пачаўшы раскопкі на плошчы больш за 1 тыс. 100 кв. м, навукоўцы нават дапусціць не маглі, што ў XII— пачатку XIII ст.ст. на ўсёй гэтай вялізнай тэрыторыі была ўсяго адна сядзіба. І належала яна майстрам-ювелірам.

Уздоўж вуліцы, якая была выкладзена драўлянымі плахамі, за плотам стаялі тры дамы. Адзін з іх вялікі — 6×4,5 м быў двухпавярховым з падклетам пяцісценкам. У ім жылі. Два іншыя, меншыя па памерах — майстэрні. Менавіта ў іх і побач было знойдзена болей 400 фрагментаў і вырабаў з бурштыну, больш за 60 кавалкаў і цэлых ювелірных плавільных тыгляў, загатоўкі вырабаў з бронзы, у асноўным бранзалеты і бронзавы дрот, ювелірны пінцэт.

Сяргей ТАРАСАЎ,
навуковы супрацоўнік
Інстытута гісторыі АН БССР.

(Працяг будзе).

ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

# О «соответствии действительности» и «невольниках чести»

Данная статья является продолжением дискуссии, начатой публикацией «Руководства наукой сверху нигде в мире нет?» («Навіны БА», № 3, 1991 г.) и ответом на реплику С. Гапоненко и Г. Залесской с категорическим названием «Не соответствует действительности» («Навіны БА», № 5, 1991 г.) и подборку «Невольник чести?..» («Навіны БА», № 6, 1991 г.).

В этих откликах авторы игнорируют 2/3 содержания нашей статьи, основная тема которой — проблемы нравственности в науке.

В своем выступлении секретари двух советов Института физики АН БССР взяли нас на прицел «неопровержимых фактов», заявив, что: 1) не приведена «информация, существенная для понимания причин...» и 2) «часть утверждений... не соответствует действительности».

Обратившись к дополнительной информации, содержащейся в статье С. Гапоненко и Г. Залесской, мы обнаружили (это легко может сделать любой читатель), что приведенные ими факты способствуют лишь более детальному описанию упомянутых нами событий, но не противоречат ни фактам, изложенным нами, ни основным выводам.

Более того, ознакомившись с протоколом № 14 от 20 октября 1990 г. заседания ученого совета ИФ АН БССР, на котором проходила аттестация лаборатории оптики неравновесных сред и выборы заведующего этой лабораторией, мы убедились, что помимо критических замечаний (без которых вряд ли можно себе представить любую деятельность) было высказано много противоположных суждений:

— Ю. В. Ходыко имеет очень высокую квалификацию и хорошие организаторские способности... (В. П. Кабашников);

— Ю. В. Ходыко заслуживает переизбрания на новый срок... (Л. Я. Минько);

— лаборатория хорошо известна в институте и в академии. Главная причина успеха — хороший заведующий, который имеет хороших помощников... (В. Д. Шиманович);

— лаборатория имеет очень сильные корни и квалифицированных сотрудников. Ю. В. Ходыко, несомненно, стержень этой лаборатории... (Л. М. Томильчик);

— Ю. В. Ходыко соответствует занимаемой должности и заслуживает переизбрания на новый срок... (П. А. Апанасевич).

Впрочем, не наша задача защищать Ю. В. Ходыко. Он в этом вряд ли нуждается. Ведь в нашем материале речь шла не столько о нем или о В. Сивчике, а о некоторых других вещах, которые остались за пределами внимания наших уважаемых оппонентов. А жаль... Но с их стороны было, по-видимому, честнее сообщить читателям не тот факт, что лишь 20 % (!) сотрудников ИФ являются членами КПСС, а хотя бы тот, что среди 42 членов ученого совета этого института лишь 6 человек (менее 15 %) беспартийных (данные С. Гапоненко).

А ведь среди 18 человек, проголосовавших против, не было ни одного, кто бы открыто сказал, что претендент не заслуживает переизбрания...

В еще более нелепое положение попадают С. Гапоненко и Г. Залесская, повествуя о серьезном замечании, содержащемся в заключении ученого совета по диссертации В. В. Сивчика, о трудностях, предшествующих ее защите и о ходе защиты.

Не представляет большого труда провести научную экспертизу упомянутого замечания. Однако в этом нет необходимости, поскольку она фактически была проведена неоднократно. Это замечание было признано несущественным, во-первых, самим ученым советом ИФ АН БССР, заключение которого (несмотря на это замечание) содержит высокую оценку диссертационной работы и рекомендацию к защите на специализированном совете того же института; во-вторых, официальными оппонентами, профессорами М. А. Ковнером, А. Б. Болотиным и В. И. Березиным, в отзывах и выступлениях которых уделено должное внимание и вопросу, связанному с данной проблемой; в-третьих,— в отзыве ведущей организации Института теоретической физики АН УССР.

Не признали это замечание ряд известных ученых, знакомившихся с работой в целом или с ее отдельными частями. Это — академик В. И. Гольданский (представивший в ДАН СССР две статьи В. В. Сивчика), академик АН УССР А. С. Давыдов, профессор МГУ А. Г. Ягола, рецензенты работы по линии ученого совета, доктора физ.-мат. наук К. И. Соловьев и А. Б. Ковриков и др. (имеются отзывы).

Не может не вызвать удивления высказывание, что эти активно работающие в науке крупные ученые, принадлежащие к разным научным учреждениям и школам, оказались «жертвами одного авртитетного мнения». Хорошо известно, что экспертная оценка ученых с мировым именем характеризуются полной независимостью.

Приводим выдержку из отзыва руководителя Московского семинара по обратным задачам математической физики профессора МГУ А. Г. Яголы (отзыв на автореферат). «Вычислительные аспекты работы В. В. Сивчика дважды обсуждались (!!) на заседаниях семинара по обратным задачам мат. физ. и были положительно оценены участниками семинара».

А ведь именно к вычислительному аспекту (способу решения уравнения для определения потенциала) и относится замечание Л. М. Томильчика.

Сознавая недостаточность единственного «существенного» аргумента для обоснования своих позиций, С. Гапоненко и Г. Залесская прибегают к печально известному приему «намека между строк». Здесь они предельно лаконичны, чтобы не сообщить лишнее, а направить воображение читателей в нужном русле, намекая на «трудности, связанные с предшествующим защите прохождением диссертации», затянувшийся «поиск необходимых для защиты оппонентов» и т. д.

Что это, как не попытка сформировать у читателя косвенным образом негативное отношение к диссертации и ее автору? Ведь было известно (в том числе и С. Гапоненко), по какой причине был вынужден отказаться от оппонирования профессор Ю. В. Ходыко и что происшедший из-за этого перенос срока защиты на другое время поставил в критическое положение первого оппонента — члена-корреспондента АН СССР А. А. Овчинникова, выезжавшего во второй половине 1990 г. за границу на длительный срок. (Кстати, приславшего положительный отзыв на диссертацию).

Но не только взятый авторами на вооружение метод определил используемую в статье «фигуру умолчания» и вложил в руки автора своеобразный «мигающий фонарик», выхватывающий из действительности лишь отдельные «удобные» факты. Все тот же прием демонстрируют авторы при описании хода защиты диссертации.

Не буем утомлять читателя перечислением и анализом встречающихся в заключительных абзацах статьи искажений фактов, двусмысленностей и насилия над логикой, свидетельствующих, что для достижения поставленной цели «соответствия действительности» хороши любые средства.

Рассеем эти хитросплетения простым доводом — осветим то существенное, что и на этот раз стремится обойти «мигающий авторский фонарик». Из выступивших в дискуссии 8 человек — шестеро крупные ученые, сфера научной деятельности которых соответствует профилю диссертационной работы. Все они дали высокую оценку работе и отметили, что автор заслуживает степени доктора физико-математических наук. Из оставшихся двух — доктор физико-математических ааук Г. А. Залесская сделала небольшое замечание об используемой в работе машинной графике.

Особый случай — выступление Л. М. Томильчика, критиковавшего терминологию и способ, которым было получено решение уравнения. (О значении этого замечания сказано ранее). Л. М. Томильчик, как известно, не является специалистом в области колебательной спектроскопии. Нет никаких оснований также предполагать, что его знакомство с методами решения уравнений, тем более их машинного моделирования, является более основательным, нежели познания в этой области известных в нашей стране ученых, оппонировавших и рецензировавших данную диссертацию.

Причины, как можно предположить, заложены в самой системе, породившей такие структуры как «специализированные советы». Нигде в мире нет подобного института для оценки научных результатов и квалификации ученых. Это определяется несколькими моментами.

1. Современная наука развивается в условиях глубокой дифференциации и специализации, без чего невозможно не только получение новых научных результатов, но и само понимание проблем, а таже оценка значимости работы.

2. Число ученых-экспертов высшей категории (докторов наук), работающих в близких научных направлениях, ограничено. (В рамках региона в подобные группы входят единицы).

3. Большие специализированные советы (до 30 человек) включают в себя также неформальные группы и подгруппы ученых, обеспечивая таким образом разрешение проблематики.

4. Однако это «расширение» может быть достигнуто за счет функционирования не одного большого совета, а совокупности ряда малых групп экспертов, формируемых из ученых, работающих в близких и перекрывающихся научных направлениях. Только за счет этого и без ущерба для качества и надежности экспертной оценки, произойдет высвобождение многих тысяч человеко-часов.

5. «Представительский балласт» из ученых высшей квалификации вынужден исполнять, по сути дела, роль машины голосования. Он составляет до 80 % от числа участников процедуры защиты. Нетрудно подсчитать, как дорого обходится науке и обществу многократное отключение (не менее 1/2 рабочего дня) из творческой и научно-организационной деятельности тысяч крупных ученых.

Очевидно, что в больших советах основная работа выполняется «переменным» квалифицированным «меньшинством», а также оппонентами и рецензентами. Представительское «большинство» оценивает результат через призму общих физических представлений (научного здравого смысла), передав по сути дела свои экспертные функции группе узких специалистов. Возникает своеобразное «отчуждение ответственности» со стороны большинства, что создает благоприятные условия для учёта мотивов, не относящихся к научным результатам, но существенных с точки зрения групповых интересов.

Отметим, что нравственная сфера человеческого сознания непосредственно связана с методами и средствами ведения полемики в конфликтной ситуации. Это достаточно ярко проявилось в публикации «Не соответствует действительности».

В связи с материалом «Невольник чести?..» (НБА, № 6, 1991 г.) хотелось бы дать ответ каждому из авторов.

Л. М. Томильчику. Благодарим Вас за столь «лестную» оценку жизненной позиции В. В. Сивчика и Ю. В. Ходыко. Это у них-то нет политических убеждений? Впрочем, пусть данное утверждение останется на Вашей совести, у нас по этому поводу несколько иное мнение.

А Ваши общие рассуждения о чистоте математических основ очень убедительны. Только какое отношение все это имеет к диссертации В. Сивчика?

Ведь Вы сами высказали по диссертации **конкретные замечания**, а не указали, заметьте, на **конкретные ошибки**.

Есть же разница между замечаниями и ошибками? Ошибки, конечно, если они имеются, нужно устранять, а вот замечания... Если на правильности результатов они не сказываются, т. е. если не сводятся к указаниям на ошибки, то в таком случае диссертант, по-видимому, волен поступать так, как ему заблагорассудится.

А. П. Войтовичу. Вы считаете, что «...любой сотрудник, претендующий на степень доктора физико-математических наук, должен уметь решать дифференционные уравнения». Но нам, хотя мы и не доктора наук, хорошо известно, что лишь в очень редких случаях дифференционные уравнения могут быть решены точно. Как правило, встречающиеся в практической работе физика дифференционные уравнения точно решены быть не могут, и в этих случаях приходится прибегать к приближенным методам. Если найденные приближенные решения подставить в исходные дифференционные уравнения, то тождества не получится. Если это положение вызывает у Вас сомнения, то проконсультируйтесь у математиков. Мы консультировались.

Далее, к вопросу о минимизации значения функции. (Тут, наверное, Вы имели в виду функционал). Диссертант получил конкретные результаты тем путем, котоый счел нужным избрать. И вопрос о минимизации функционала перед ним не стоял.

Хотелось бы этот «ответ оппонентам» закончить на оптимистической ноте. Ведь уже известно решение президиума АН БССР об отмене подписи секретаря парткома в наших характеристиках и их изучения в работе аттестационных комиссий с правом голоса.

Дай бог, чтобы президиуму хватило мужества довести работу по департизации науки до логического конца. Во всяком случае, мы уверены, что он может в этой работе твердо рассчитывать на поддержку абсолютного большинства сотрудников АН БССР.

Е. ФЕДЮШИН.
В. ЛЫСКОВЕЦ.

## Объявление



НОВОСТИ

# В двух словах

*Недавно из Польши вернулась делегация Академии наук БССР во главе с президентом АН БССР академиком В. П. Платоновым. Во время этого визита, который осуществлялся по приглашению президента Польской Академии наук А. Гейштора, было подписано соглашение о сотрудничестве между Академиями наук Белоруссии и Польши на период до 1995 года.*

*Делегация АН БССР посетила научные учреждения Польской Академии наук в Варшаве и Кракове, Польский национальный парк «Беловежская пуща», а на обратном пути — Белорусский государственный заповедник «Беловежская пуща». Состоялся обмен мнениями ученых и специалистов по сохранению этого уникального природного лесного массива.*

* * *

*Учеными Института физики твердого тела и полупроводников АН БССР совместно с коллегами из Белгосуниверситета разработано устройство дозиметрического контроля, которое не имеет аналогов, и принципиально отличается от известных приборов. Детектор поглощенной дозы, представляющий собой крохотную таблетку, можно легко вмонтировать в часы, браслет или кулон. Под действием радиации, в том числе и обычной, фоновой, таблетка изменяет физические свойства. Эти структурные превращения затем прослеживаются с помощью простейшей физической аппаратуры.*

*Таким образом, наладив производство таких детекторов, республика может не только быстро обеспечить свои потребности, но и выйти на мировой рынок.*

* * *

*Научная работа перестает быть престижной. Во всяком случае в нашей республике. Об этом свидетельствует тот факт, что конкурс в аспирантуру АН БССР упал до рекордно низкой отметки — 1,1 человека на место. Если эта тенденция сохранится, то фундаментальную науку ожидает безрадостное будущее.*

* * *

*Наши предположения подтвердились. Дело в том, что в одном из последних номеров нашей газеты была опубликована информация о разнице в показаниях гамма-дозиметров, установленных на проходной завода им. Ленина вблизи площади Якуба Коласа и на здании президиума АН БССР.*

*Как сообщил редакции заведующий лабораторией Института физики АН БССР Э. А. Рудак, избыточный гамма-фон у здания президиума действительно объясняется большим количеством облицовочного материала (гранит, мрамор, другие горные породы), который содержит радиоактивные элементы. Внутри помещений президиума естественный фон еще выше — до 20 мкр/час. Однако, как уверяет ученый, это совершенно безвредно для нашего организма. По мере удаления от здания президиума АН БССР гамма-фон постепенно снижается, что и отражают дозиметры коллективного пользования.*

(Продолжение на 4-й стр.).

НОВОСТИ

## В двух словах

(Продолжение. Начало на 3-й стр.).

*Институт проблем регистрации информации Академии наук УССР стал основателем электронной компьютерной газеты «Все — всем».*

*Вся информация передается в цифровом виде по каналу республиканского телевидения с помощью обычных телепередатчиков и принимается абонентами благодаря специальному устройству — телевизионному адаптеру и записывается непосредственно в память персональных ЭВМ.*

* * *

*Новый, не имеющий аналогов в отечественной практике полиуретановый клей, получен в Институте технической химии Пермского научного центра Уральского отделения Академии наук СССР.*

*Среди его многочисленных достоинств — универсальность, безупречность с точки зрения экологии. Для отвердения требуется всего три-пять минут, что позволяет использовать новшество на крупном поточном производстве.*

* * *

*В Академии наук УССР появилось новое научное учреждение — Институт сорбции и проблем эндоэкологии.*

*Дело в том, что сорбционная терапия показала свои уникальные возможности, например, при лечении пострадавших от аварии на Чернобыльской АЭС. Ученые доказали, что новые препараты обладают способностью выводить из организма радионуклиды и радиотоксиды, эффективны при профилактике заболеваний людей, которые проживают на радиационно загрязнённых территориях. Кроме того, обнаружено, что сорбенты хорошо очищают воду, молоко и другие продукты от пестицидов, ионов тяжелых металлов.*

* * *

*Возродить незаслуженно забытую в нашей стране лечебную минералогию решили ученые Института геологии Коми научного центра Уральского отделения АН СССР.*

*Для этого здесь провели трехдневную школу, организованную геологами Сыктывкара совместно со Всесоюзным минералогическим обществом. Речь шла не только о поиске путей изготовления фармакологических препаратов на минеральной основе, но прежде всего — о выработке единой политики в изучении воздействия минералов на организм человека.*

(По сообщениям советской прессы и собственная информация).

## Віншуем!

Сёння — 70 год з дня нараджэння і 50 год навукова-педагагічнай дзейнасці вядомага беларускага гісторыка, доктара гістарычных навук, прафесара В. І. Мялешкі. Ён аўтар звыш 130 прац, сярод якіх 9 манаграфій, прысвечаных вывучэнню беларускага феадальнага горада, аграрнай гісторыі Беларусі, народнага руху на беларускіх землях у XVII—XVIII ст.ст.

Васіль Іванавіч — стваральнік гістарычнай школы, прадстаўнікі якой даследуюць праблемы палітычнай, царкоўнай і сацыяльна-эканамічнай гісторыі. Ён узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Сардэчна віншуем В. І. Мялешку з юбілеем! Жадаем яму моцнага здароўя і плёну ў працы!

*Супрацоўнікі Інстытута гісторыі.*

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

# ДЗЕ ВЫТОКІ ГІСТАРЫЧНАГА БЯСПАМЯЦЦЯ?

У апошнім нумары часопіса «Весці Акадэміі навук БССР» (серыя грамадскіх навук) за 1990 г. быў надрукаваны артыкул члена-карэспандэнта АН БССР П. Ц. Петрыкава «Перыядызацыя гісторыі гістарычнай навукі ў БССР». У ім аўтар дае ацэнку таму, што зрабілі беларускія гісторыкі за гады існавання Савецкай Беларусі. Так, зроблена шмат. А ці можна ўзважыць, якую карысць прынесла гэта беларускаму народу? Не будзем жа мы сцвярджаць, што галоўнае — колькасць выданых прац па той ці іншай праблеме. Пытанне цяжкае. І адказу на яго ў азначаным артыкуле мы не знойдзем. А жаль. Бо, калі мы і зараз не будзем ставіць яго перад сабой, дык і надалей праца гісторыкаў будзе ацэньвацца толькі колькасцю друкаваных аркушаў.

А ці шмат зрабілі больш чым за 70 гадоў беларускія гісторыкі для выхавання маладога пакалення беларускай зямлі, для таго, каб адчувалі сябе юнакі і дзяўчаты яе гаспадарамі, адчувалі адказнасць на працяг спраў сваіх продкаў, а значыцца, за яе будучыню? Адказ на гэтае пытанне не суцяшальны. Моладзь не ведае мінулага сваёй зямлі. Нават самая яе перадавая частка — студэнты — у ходзе сацыялагічнага апытання, праведзенага ў 1989 г. сацыёлагамі БДУ, з вялікай цяжкасцю змаглі прыпомніць толькі 12 станоўчых падзей з гісторыі Беларусі. І якіх падзей! Найбольш часта паўтараліся наступныя — утварэнне БССР, XXVII з'езд КПСС, красавіцкі (1985 г.) Пленум ЦК КПСС, XIX Усесаюзная партыйная канферэнцыя. І толькі дзве станоўчыя падзеі, на іх погляд, заслугоўваюць увагі і памяці ў дасавецкім мінулым роднай зямлі — «уключэнне Беларусі ў склад Вялікага княства Літоўскага» і... «татара-мангольскае нашэсце»!

Не будзем суцяшаць сябе тым, што падобнае назіраецца і ў іншых рэспубліках. Гэта не так. У Расіі, напрыклад, рускія студэнты адзначылі больш 80 гістарычных падзей, у Арменіі — больш 40.

Дык у чым жа справа? Чым можна абгрунтаваць такі вось парадаксальны феномен грамадскай думкі ў нашай рэспубліцы, гістарычнага бяспамяцця беларускай моладзі? Хто возьме на сябе адказнасць за такое становішча? Зразумела, прычын можна назваць шмат. Але перш за ўсё віною, відаць, тыя глыбокія дэфармацыі, якія закранулі усё савецкае грамадства, у тым ліку і гістарычную навуку.

«Пачаткам новага перыяду развіцця гістарычнай навукі ў Беларусі, — піша П. Ц. Петрыкаў, — несумненна з'яўляецца Кастрычнік 1917 г.». Ствараюцца навучальныя і навукова-даследчыя ўстановы, рыхтуюцца кадры вучоных, пашыраецца гістарычная праблематыка. Гэта так. Але мы хочам засяродзіць увагу на іншым аспекце. Рост нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, характэрны для таго часу, стымуляваў і развіццё беларускай гістарычнай думкі ў гэтым напрамку.

Па-іншаму пачалі вырашаць гісторыкі многія праблемы: этнас беларусаў, фарміраванне беларускай нацыі і г. д. У. І. Пічэта напіша аб гэтым часе, што савецкія гісторыкі Беларусі адверглі антынавуковую думку буржуазных рускіх і польскіх гісторыкаў, што беларускі народ не можа быць аб'ектам навуковага вывучэня, бо ён не быў суб'ектам гістарычнага працэсу. Іх працы сведчылі, што ўжо на зары сваёй гісторыі беларускі народ выступае на гістарычную сцэну, маючы самастойнае Полацкае княства. Доўгі час яно змагалася за сваю палітычную самастойнасць, спачатку з Наўгародскім, потым з Кіеўскім княствамі. У складзе Вялікага княства Літоўскага беларускія землі збераглі ўнутраную аўтаномію. (Гл.: Пичета В. И. История Белоруссии в советской историографии. — В сб.: Двадцать пять лет исторической науки в СССР. М.-Л., 1942).

У сярэдзіне 20-х гадоў асаблівую цікавасць праяўлялі гісторыкі да беларускага культурнага руху XVI ст. Яны разглядалі беларускае адраджэнне XVI ст. па сваёй сутнасці як разнавіднасць агульнаеўрапейскага культурнага руху, добра вядомага ўсім пад назвай Адраджэння.

Але ў хуткім часе гэтым думкам быў пастаўлены заслон. Пачаўся новы этап у развіцці гістарычнай навукі, водгукі якога мы адчуваем і ў наш час. У памянутым артыкуле П. Ц. Петрыкава аб гэтым часе (30-я гады) гаворыцца як аб новым перыядзе развіцця, які «характарызуецца перш за ўсё барацьбой гісторыкаў не столькі з ідэямі дваранска-буржуазнай гістарыяграфіі, колькі паміж сабой, выкрыццём (і самавыкрыццём) прадстаўнікоў старэйшага пакалення ў неразуменні новых патрабаванняў, іх няздольнасці або нежаданасці пераходзіць на марксісцка-ленінскія метадалагічныя пазіцыі». Зразумела? Шчыра кажучы, мне не вельмі. І ў прыватнасці, якую пазіцыю лічыць Пётр Ціханавіч «марксісцка-ленінскай» для гісторыкаў 30-х гадоў?

Можа лягчэй будзе гэта зразумець, калі звернемся да гістарычных падзей таго часу. Як сведчаць гістарыёграфы, і ў прыватнасці, доктар гістарычных навук У. М. Міхнюк, на развіццё гістарычнай навукі ў той час вялікі ўплыў аказала пісьмо І. В. Сталіна «Аб некаторых пытаннях гісторыі бальшавізма», якое было надрукавана ў 1931 г. у шостым нумары часопіса «Пролетарская революция». На жаль, Уладзімір Мікалаевіч не раскрывае чытачу, у чым жа менавіта заключаўся гэты ўплыў. Таму і супынімся на гэтым пісьме больш падрабязна.

На першы погляд, пісьмо закранала прыватныя пытанні. Але ў далейшым гэтыя прыватнасці, узведзеныя ў абсалют, прывялі да таго, што гістарычная навука перастала, па сутнасці, быць навукай і стала паслухмянай служкай, часткай існуючай ідэалогіі. Што гэта за прыватныя пытанні? Першае — забарона навуковых дыскусій па пытаннях, якія, на думку Сталіна, з'яўляліся «аксіёмамі бальшавізма». У выніку дыскусіі на доўгі час былі выключаны з практыкі гістарычнай навукі. А гэта, зразумела, вяло яе да дагматызму, схематызму, страчваўся яе творчы характар.

Па-другое, у артыкуле адзначалася, што «папяровыя дакументы» не могуць служыць справе выяўлення гістарычнай ісціны. «Хто ж, акрамя безнадзейных бюракратаў, — пісаў Сталін, — можа спадзявацца на адны толькі папяровыя дакументы? Хто ж, акрамя архіўных крыс не разумее, што партыю і лідэраў трэба правяраць па іх справах, перш за ўсё, а не толькі па іх дэкларацыях?» (Сталин И. В. Соч. — Т. 13. С. 85). У выніку значна скараціўся допуск гісторыкаў у архівы, а разам з тым і іх магчымасці вывучэння дакументаў для аб'ектыўнага асвятлення гістарычных працэсаў.

І зусім ужо не прыватны характар мела ўстаноўка Сталіна, якую ён даваў як бы рэдакцыі часопіса «Пролетарская революция», а па сутнасці ўсёй гістарычнай навуцы: «узняць пытанні гісторыі бальшавізма на належную вышыню, паставіць справу вывучэння гісторыі нашай партыі на навуковыя, бальшавіцкія рэйкі і завастрыць увагу супраць трацкісцкіх і усялякіх іншых фальсіфікатараў гісторыі нашай партыі, сістэматычна здымаючы з іх маскі» (Сталин И. В. Соч. — Т. 13. С. 101).

І гэтае ўказанне было выканана. У справу па «выкрыццю» і «выяўленню» аказаліся ўцягнутымі і самі вучоныя, якія шукалі ворагаў у сваім асяроддзі. Тым больш, што нейкі «вопыт» (барацьба з «нацдэмаўшчынай») ужо быў. У снежні 1930 г. у газеце «Правда» быў надрукаваны артыкул В. Сярбенты, З. Поташа, Я. Сякерскай «Белорусский национал-демократизм на идеологическом фронте БССР». У адносінах да гістарычнай навукі яны пісалі: «Гістарычная навука БССР (гісторыя Беларусі, гісторыя рэвалюцыйнага і рабочага руху ў БССР), як гэта не прыкра, амаль да апошняга часу была арэнай для насаджэння чужой нам нацдэмаўскай ідэалогіі.

Актыўную ролю агентаў нацыянал-дэмакратычнага, гэта значыць буржуазнага скажэння гісторыі Беларусі, адыгралі нацыянал-апартуністы ў радах КП(б)Б Ігнатоўскі і Жылуновіч: першы як гісторык, другі як папулярны беларускі пісьменнік. У сваіх гістарычных экскурсах яны праводзілі ідэі аб слабасці класавых супярэчнасцей у Беларусі, аб адсутнасці кулацкай вярхушкі ў беларускай вёсцы, аб вялікай рэвалюцыйнай ролі беларускага сялянства ў параўнанні з рабочымі, аб нацыянальнай самабытнасці беларусаў і поўнай ізаляванасці гістарычнага працэсу ў Беларусі — адным словам, буржуазныя ідэі адзінства беларускай нацыі» (Правда. 1930. 28 снежня).

Услед за палітычнай дыскрымінацыяй гісторыкаў пачаліся рэпрэсіі. Але рэпрэсіраваны былі не толькі гісторыкі, але і сама наша гісторыя: шэльмаваліся імёны многіх славутых нашых землякоў (Ф. Скарыны, С. Полацкага, К. Каліноўскага і інш.), рушыліся гістарычныя помнікі. А над усімі, хто ўсё ж рабіў спробы паказаць веліч гісторыі свайго народа, вісела пагроза быць абвінавачанымі ў нацыяналізме.

Можна пагадзіцца з думкай П. Ц. Петрыкава, што пасля XX з'езду КПСС гістарычная навука ўступіла ў новы перыяд свайго развіцця. Але я ніколі цалкам не падтрымаю яго ў тым, што «найбольш характэрнымі асаблівасцямі або рысамі гістарычных прац гэтага перыяду (маецца на ўвазе час ад 1956 г. да сярэдзіны 80-х гадоў. — В. Грыгор'ева.) з'яўляюцца: адмаўленне ад цытатніцтва розных палажэнняў з прац Сталіна і яго саратнікаў і апалагетызацыі іх як асоб; магчымасць карыстання архівамі, імкненне выпрацоўваць доказы, абагульненні і высновы на аснове шырокага кола рэальных гістарычных фактаў: пашырэнне фронту навуковых даследаванняў па многіх новых напрамках і праблемах з прычыны значнага прытоку ў навуку новых кадраў; больш глыбокае засваенне вучонымі марксісцка-ленінскай метадалогіі і прымяненне яе прынцыпаў у працэсе навуковага пазнання».

Не можа змякчыць, на нашу думку, такую вось характарыстыку і тое, што, як адзначае далей Пётр Ціханавіч, «рэалізацыя гэтых фактараў працягвалася ва ўмовах партыйна-дзяржаўнай манаполіі на духоўнае жыццё ў грамадстве, што прыводзіла да іх ажыццяўлення ў адпаведных рамках». Бо якімі рамкамі можна апраўдаць тое, што працы беларускіх гісторыкаў таго часу і напісаныя на іх аснове падручнікі не толькі не садзейнічалі фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці беларускай моладзі, а, хутчэй, наносілі шкоду ў гэтым напрамку.

Яшчэ і зараз асноўнай крыніцай папаўнення ведаў па гісторыі Беларусі савецкага перыяду застаецца стары падручнік, выдадзены пад рэдакцыяй П. Ц. Петрыкава, у якім пануюць канцэпцыі і догмы шматгадовай даўнасці: пра адвечную адсталасць і забітасць беларусаў, пра гістарычную місію нашага старэйшага брата — вялікага рускага народа, зліццё нацый і народнасцей і ўтварэнне адзінай гістарычнай агульнасці — савецкага народа і г. д. І толькі аднаму, як і раней, няма там месца — беларускаму народу.

**В. ГРЫГОР'ЕВА,**
кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР.

⊙

ПОШУКІ, ГІПОТЭЗЫ, ЗНАХОДКІ

# Свет сімвалаў і знакаў Францішка Скарыны




**На гравюрах Скарынаўскай Бібліі, на геральдычных шчытах і сцягах, і не толькі на іх, сустракаецца больш за дзюжыну сімвалаў і знакаў. Некаторыя з іх паўтараюцца на працягу ўсёй выдавецкай дзейнасці нашага славутага земляка. Яны ўтвараюць асобую семантычную сістэму, вобразна кажучы, яркае сузор'е, сімвалаў. Зразумець схему пабудовы гэтага сузор'я, спасцігнуць сутнасць яго элементаў — значыць раскрыць яшчэ адну старонку духоўнага жыцця аднаго з тытанаў сярэднявечча, зразумець наколькі арганічна спалучаецца яго гуманістычна-асветніцкая, эстэтычная і філасофская дзейнасць з выяўленча-мастацкай. Дасканальнасць і самабытнасць кніжнай графікі Францішка Скарыны, як сотні гадоў назад, так і сёння, дае магчымасць чытачам комплексна ўспрыняць і асэнсаваць БОЖЕСТВЕННУЮ И ЖИТЕЙСКУЮ МУДРОСЦЬ — гэтыя два паралельныя і зайздросна пастаянныя пачаткі яго светапогляду, прысвечаныя ЛЮДЕМ ПОСПОЛИТЫМ РУСКОГО ЯЗЫКА К ДОБРОМУ НАУЧЕНИЮ.**

Мала апісаць разнастайны і багаты свет сімвалаў Скарыны. Неабходна спасцігнуць логіку яго ўтварэння і на гэтай падставе прапанаваць прачытанне кожнага сімвалу паасобна. Патрэбна даступна і пераканаўча абаснаваць знойдзенае тлумачэнне. Вядома, вырашыць такую складаную задачу, тым больш для дзюжыны сімвалаў і знакаў, у адным артыкуле немагчыма. Таму ніжэй мы спынімся галоўным чынам на сімвалах, якія маюць самыя непасрэдныя адносіны да Скарыны як чалавека, асветніка, філосафа, мастака і друкара. Па-за нашай увагай застануцца сімвалы, якія характарызуюць слаўнага палачаніна як глыбокага знаўцу гісторыі Бібліі. Мы не зможам таксама абмеркаваць паходжанне некаторых іншых цікавых знакаў.

Асновай нашага аналізу пабудовы сістэмы і семантыкі сімвалаў і знакаў паслужыць агульны агляд і як мага больш поўнае прачытанне мастацкай і літаратурнай спадчыны Скарыны. Мы будзем зыходзіць з лагічных сувязей яе асобных частак. Сёння зрабіць гэта не так складана, паколькі спадчына першадрукара ўсходніх славян крапатліва сабрана і дастаткова поўна выдадзена. У значнай ступені (як гэта дазваляе газетны артыкул) мы звернемся да падыходаў і меркаванняў вядомых даследчыкаў Скарыніяны.

Патрэбна прызнацца, што аўтар добра разумее, што сімвалы застаюцца сімваламі. Тыя з іх, якія адрасаваны шырокай аўдыторыі, не маюць адназначнага прачытання. Яны заўсёды арыентаваны на веды, логіку і... фантазію чытача. Аднак кожны паважаючы сябе абывацель заўсёды ведае, што ўсякая фантазія павінна мець свае межы. Магчымасці ж даследчыкаў заўсёды больш вузкія, чым шырокай чытацкай аўдыторыі. У сваіх тлумачэннях яны абавязаны заставацца ў рамках аўтарскай задумы і логікі думкі, павінны скарыстаць традыцыі і правілы сімвалічнага пісьма. Гэта і ёсць тыя больш дакладныя межы, дзе пачынаецца семантыка сімвалаў як навука. Паспрабуем іх не пакінуць.

Нагадаем выявы сімвалаў і знакаў, якія стануць асноўнымі аб'ектамі нашага даследавання.

Першы сімвал уяўляе сабой малюнак сонца і месяца. Ён з'яўляецца аўтарскай манаграмай або, іншымі словамі,— сігнетам Скарыны. Гэта графічная мініяцюра арганічна ўпісваецца ў кампаноўку тытульнага ліста і шматлікія ілюстрацыі Бібліі. Яна адначасова выкарыстоўваецца Скарынай ў якасці выдавецкай маркі і аўтарскага знака.

Сігнет «Сонца і месяц» — самы распаўсюджаны знак пражскіх і віленскіх выданняў. Ён сустракаецца на жанравых гравюрах, на партрэце Скарыны, на застаўках, ініцыялах (буквіцах), віньетках. Шырокая распаўсюджанасць знака на ілюстрацыях вызывала асобую цікавасць і ўвагу даследчыкаў. Класікі Скарыніяны У. Стасаў, П. У. Уладзіміраў, М. Шчакаціхін, Л. Баразна і іншыя ўмоўна называлі яго гербам. Сучасны даследчык мастацкай спадчыны Скарыны В Шматаў, зыходзячы з падставы, што мініяцюра «Сонца і месяц» адлюстравана на геральдычным шчыце, прытрымліваецца меркавання, што яна з'яўляецца фамільным гербам. «У асветніка было нямала магчымасцей,— піша В. Шматаў,— атрымаць герб, напрыклад, шляхам набілітацыі. У некаторых краінах Еўропы, з якой Скарына звязан з юнацкіх гадоў, доктарская габілітацыя прыраўноўвалася да набілітацыі і дазваляла каралю ўвесці знатнага вучонавга ў саслоў'е нобіля.»

Юрыдычнае права ў «Вялікім княстве Літоўскім, Рускім, Жамойцкім і іншае» (ВКЛ) было адным з самых дасканалых у Еўропе. Калі звярнуцца да раздзелаў Статута ВКЛ «О персоне нашой господарской» і «О волностях шляхетских...», то можна пераканацца што «за явными значными и рицерскими послугами» можно было атрымаць з каралеўскай міласці адпаведныя прывілеі «стану шляхетского и гербов шляхетских», аднак «сам собе привлащати ани их уживати не маеть никоторым обычаем». Пры наяўнасці адпаведных дакументаў або іншых фармальнасцях Статут ВКЛ прадугледжваў прызнанне набілітацыі і краін Еўропы. Хаця прыведзеныя вытрымкі ўзяты са «Статута 1588», добра вядома, што адпаведны закон дзейнічаў і ў часы Скарыны.

Як бачым, закон не пазбаўляў Скарыну магчымасці атрымаць шляхецкі герб. І ўсё ж у вядомых дакументах мы не маем ні адзінага прыкладу спасылкі на шляхецкую прыналежнасць асветніка, хаця дайшло іх да нас не так і мала. Калі паглядзець на выявы прыведзеных вышэй сімвалаў, то можна ўбачыць, што апошні — «Белае поле» — таксама заключаны ў адпаведны картуш. Мяркую, што ніхто не асмеліцца яго аднесці да фамільнага герба. Забягаючы наперад, адзначу, што ні адзін з прыведзеных сімвалаў не мае адносін да шляхецкай атрыбутыкі. Можна адназначна сцвярджаць, што ў час выдавецкай дзейнасці вольнасці шляхецкія былі недаступныя слаўнаму палачаніну. Гэта, аднак, не перашкаджала яму выкарыстоўваць геральдычныя матывы. Тым не менш, Скарына не пераступаў мяжу закона, паколькі асноўным атрыбутам шляхецкіх гербаў з'яўлялася прысутнасць у той або іншай форме выявы кароны. З вялікай нацяжкай можна параўноўваць і шчыты, на якіх змешчаны сімвалы з картушамі фамільных гербаў.

Сёння тэрмін «герб Скарыны» пашыраны сярод інтэлігенцыі і моладзі, якая цікавіцца сімволікай, калекцыяніруе вымпелы і значкі, прысвечаныя нашаму першадрукару. Як умоўная назва сігнета ён выкарыстоўваецца і даследчыкамі. Сучасная сімволіка далёка адышла ад традыцый геральдыкі сярэднявечча. Істотна змянілася і семантыка сімвалаў, якія трапілі да нас з далёкага мінулага. Таму застаецца толькі пажадаць доўгага жыцця тэрміну «герб Скарыны». Але, каб быць гістарычна дакладнымі, патрэбна памятаць, што слова «герб» тут выкарыстоўваецца ў сэнсе «сімвал».

Больш аднадушныя меркаванні даследчыкаў аб лейтматыве сігнета. Яго выява падкрэслівае гуманістычна-асветніцкі характар дзейнасці нашага земляка. Адпаведны дэвіз можна коратка выказаць наступным чынам: «Святло пераможа цемру». Поўнай і трапнай уяўляецца пашыраная формула, прапанаваная В. Шматавым: «Свяціць заўсёды — удзень і ўначы, святло ведаў пераможа цемру». Аднак яе змест больш адпавядае сучаснай ацэнцы дзейнасці «Скарыны, чым гістарычнай дакладнасці.

Пытанне аб паходжанні манаграмы «Сонца і месяц» упершыню было пастаўлена М. Шчакаціхіным у артыкуле «Калі нарадзіўся Францішак Скарына?». Па яго меркаванню, відарыс сігнета адпавядае астранамічнай з'яве зацьмення Сонца, якое назіралася 6 сакавіка 1486 г. Расказы родных аб незвычайнай падзеі, якая адбылася ў дзень нараджэння, маглі аказаць на хлопчыка глыбокае ўражанне, што ў будучым паслужыла падставай для выбару адпаведнага сімвала. Такую гіпотэзу падзяляюць нямногія даследчыкі. У некаторых выпадках пярэчанні носяць занадта катэгарычны характар: «Мы адмаўляемся бачыць у яго гербе зацьменне або атрыбут кабалістыкі старажытнага Ўсходу,» — піша В. Шматаў. Справа, вядома, не ў кабалістыцы Ўсходу, а ў правільным прачытанні мастацкай спадчыны. Таму звернемся да зыходнай ідэі М. Шчакаціхіна, паколькі на яе карысць ёсць слушныя аргументы.

Сфера навуковых інтарэсаў Скарыны распаўсюджвалася не толькі на гісторыю, філасофію, этыку, медыцыну, батаніку, але і на астраномію. Выдадзеная ў Вільні «Малая падарожная кніжыца» уключае вынікі яго плённай працы ў галіне астраноміі. Тут змешчаны грунтоўны каляндар на 1523—1543 гг., які ўключае звесткі аб працягласці дня і ночы ў пачатку і сярэдзіне кожнага месяца на шыраце і даўгаце Вільні. У працы прыводзяцца дакладныя даныя аб поўных і частковых месячных зацьменнях і многія іншыя астранамічныя звесткі. (Падрабязна з імі можна пазнаёміцца ў артыкуле Г. Галенчанка; Гл.: «Энцыклапедычны даведнік. Скарына і яго час», 1988, стар. 249).

Такім чынам, «астранамічныя» сюжэты на гравюрах і выява сігнета не могуць быць выпадковымі. Яны павінны мець непасрэдныя адносіны да канкрэтных прыродных з'яў. Прывядзем два найбольш цікавыя прыклады на карысць такога меркавання. На ксілаграфіі «Стварэнне свету», якая ў адпаведнасці са Святым пісаннем складаецца з шасці частак, знаходзім сюжэт стварэння Богам сонца, месяца і зорак (пятая частка). Сонца і месяц на небе намаляваны не паасобна, а сумяшчаюцца, што дае магчымасць бачыць у гэтым адначасова і прыродную з'яву, і відарыс аўтарскай манаграмы. Адносіны паходжання манаграмы да зацьмення выразна падкрэсліваюцца на адной з заставак, якая прыведзена намі ў якасці ілюстрацыі. Тут спалучаюцца два ўзоры сонца і месяца, што ўказвае на іх лагічную сувязь. Верхні ўзор патрэбна трактаваць як прыродную з'яву, ніжні — як відарыс сігнета.

З чым нельга пагадзіцца ў меркаваннях М. Шчакаціхіна, дык гэта з вызначэннем даты нараджэння Скарыны. Самае глыбокае ўражанне ў памяці юнака магло пакінуць, безумоўна, толькі асабістае нагляданне зацьмення. Менавіта яно і магло паслужыць падставай для выбару адпаведнага сюжэта аўтарскага знака. Да таго ж, як заўважана А. Ясінскім, узрост Скарыны на партрэце адпавядае прыкладна 40—45 гадам, што на 9—14 гадоў больш, чым пры падліку па схеме М. Шчакаціхіна.

І ўсё-такі яго ідэя ў сваёй аснове мае многа прывабнага. Менавіта ў час зацьмення 1486 г. юнаму Скарыне сапраўды маглі паведаміць, што і ў дзень яго нараджэння таксама мела месца падобная з'ява. Больш таго, ён мог даведацца аб гэтым, вывучаючы астраномію. Прывабнасць гіпотэзы М. Шчакаціхіна заключаецца ў тым, што яна ўзмацняе матывы, якія маглі паслужыць падставай для выбару выявы сігнета і адначасова ўказвае шлях да больш-менш абаснаванага падыходу ў вызначэнні даты нараджэння. Калі звярнуцца да астранамічных звестак аб зацьменнях, якія мелі месца для Еўрапейскай часткі Расіі з 1060 па 1715 год, складзеных М. Вільевым (1915 г.), то патрэбна вылучыць наступныя гады — 1460, 1476, 1486, 1491. Істотна, што ўсе яны знайшлі адгалосак у Пскоўскіх летапісах. У 1486 годзе адбылося толькі частковае зацьменне. Яго можна было назіраць і ў Полацку. Згодна з разлікамі М. Вільева зацьменне 1476 г. наглядалася на паласе, асяродак якой таксама прыпадаў на геаграфічнае становішча Полацка. Да таго ж — зацьменне было поўным! Таму найбольш верагоднай датай нараджэння Скарыны патрэбна лічыць 25 лютага 1476 г. Заўважым, што яна адпавядае ўзросту асветніка на партрэце, датаваным 1517 годам.



Выбраўшы ОСТАВИТИ В НАУЦЕ И В КНИГАХ ВЕЧНУЮ СЛАВУ И ПАМЕТЬ СВОЮ, Скарына паклапаціўся даць аб сабе і сваёй працы максімальныя звесткі. Формы падачы інфармацыі самыя разнастайныя. Выкарыстоўваецца звычайнае і сімвалічнае, «рэбуснае» пісьмо.

У кожнай з кніг пражскай Бібліі і ў састаўных частках віленскіх «Малой падарожнай кніжыцы» і «Апостала» у прадмовах і пасляслоў'ях падкрэсліваецца аўтарства тэксту і перакладу. Асабістае афармленне і выраб гравюр пазначаны сігнетам. Аб працы над гравюрамі і іх прызначэнні, як адзначаў Л. Баразна, сказана ў кнізе «Ісус Сірахаў»: «...ПИЛЬНОСТЬ ЕГО ПРИМЕНЯЕТЬ МАЛЕВАНИЕ... СЕРДЦЕ СВАЕ ВЫДАСТЬ КО ИСКОНЧАНИЮ ДЕЛА И ПИЛЬНОСТИЮ СВОЕЮ ОКРАСИТЬ НЕДОСКОНАЛУЮ РЕЧЬ». У нагаданай кнізе асветнік змяшчае і ўласны партрэт. Як бы прадбачачы магчымасць неадназначнага падыходу ў вызначэнні аўтара ілюстрацый, Скарына выразна падкрэслівае асабістую прыналежнасць сігнета «Сонца і месяц». Яго выяву мы знаходзім у цэнтры гравюры на абрусе, які пакрывае пюпітр.



(Працяг на 6-й стар.)

*Вл. Якутов*

# Академическая сюита

## (Повесть)

25

**(Продолжение. Начало в №№ 2—9).**

К концу дня, когда Лукашек обычно прекращал свою челночную беготню, Бульбянов зашел к нему в кабинет.

— Семен Терентьевич,— сказал он, присев к столу.— Вы согласны, что наш сектор не валяет дурака, а в общем и целом занят важной и нужной работой?

Лукашек молча уставился на профессора. Он растерялся не столько от его вопроса — вопрос был явно риторический, сколько от того, что такая важная шишка, как Бульбянов, назвал его по имени и отчеству.

— О, конечно, Егор Иванович, конечно! — справившись со смущением, воскликнул ученый секретарь.

— Тогда, Семен Терентьевич, будьте любезны не беспокоить до обеда научных сотрудников сектора мелочной текучкой,— тем же предупредительно-вежливым тоном продолжал Бульбянов.— Если же вдруг возникнет какая-либо срочная неотложность, решайте все через меня.

Лукашек послушно кивнул: будет сделано!

Бульбянов пожал ему руку и с достоинством удалился. Лукашек тут же помчался к директору. Он подобострастно изложил претензии Бульбянова, придав им иную окраску и смысл.

— Он демонстративно не желает выполнять установившиеся в коллективе нормы взаимного общения между сотрудниками,— многозначительно заключил ученый секретарь,— Более того, явно стремится стать полновластным хозяином в институте.

К удивлению Лукашека, директор спокойно воспринял столь, как ему казалось, необычное поведение строптивого профессора. Наоборот, он как будто внутренне был доволен действиями Бульбянова. Во всяком случае новость оставила его безразличным, хотя Лукашек знал, как остро реагировал Зарайский на любое, даже самое незначительное покушение на свое единоначалие.

— Бульба больше ничего тебе не говорил? — полюбопытствовал он.— Не возникал вопрос относительно диссертации Крайновой?

— Абсолютно ничего, Адам Максимович,— ответил Лукашек и в свою очередь спросил: — Разве он о ней что-нибудь знает?

— Больше, чем ты думаешь, Семен,— вздохнул Зарайский.— Он затребовал второй экземпляр и вот уже добрую неделю изучает его.

— Ужас! — невольно воскликнул Лукашек.— Если он всерьез возьмется ее потрошить, из диссертации пух полетит по всему институту.

— То-то и оно,— вздохнул Зарайский, привыкший к тому, что подобные дела обделывались в тишине. Меня очень, очень интересует, что он думает об этой работе. Какие-то записи, заметки... Пошарь вечерком в его кабинете, загляни в шкаф, в письменный стол...

— Подобного рода бумаги хранятся у него в сейфе,— развел руками Лукашек.— А дубликаты ключей — тоже в сейфе, на милицейском посту. Мне-то дадут, но фамилию и время зарегистрируют. А он... Он ведь уничтожит меня, Адам Максимович. Это ведь уголовное дело...

— Ай, Сема, Сема,— наигранно засмеялся Зарайский. — У хорошего хозяина все должно быть под руками.

Он открыл свой сейф и вытащил оттуда связку ключей. Развязал, подал Лукашеку нужный, негромко сказал:

— Не забудь, просмотрев бумаги, положить на прежнее место.

— А диссертацию?

— Диссертацию тоже. Прочти только записи Бульбы, посмотри пометки на полях. Постарайся скопировать. Почерк у него разборчивый...

— Знаю, знаю,— угадывая мысли своего шефа, обнадеживающе произнес Лукашек.— Все будет сделано, Адам Максимович.

Ученый секретарь радостно вышел из кабинета; он был уверен, что легко выполнит столь деликатное поручение. Кстати, такие щепетильные дела он проделывал уже много раз. Кабинеты многих ученых, их столы и переписка неоднократно были предметом интереса Лукашека, а вернее, Зарайского. Семен научился даже фотографировать рукописи и разные бумаги, которые, по его мнению, могли пригодиться Адаму Максимовичу. Однажды он чуть было не устроил пожар, увлекшись фотографированием. Получилось это так. Чтобы лучше осветить стол, на котором Лукашек собирался сделать фотокопии крамольных документов, он ввинтил лампочки слишком большой мощности. Пока он отбирал для фотографирования нужные страницы, на столе вспыхнули газеты и какие-то бумаги. Лукашек, чертыхаясь, принялся тушить пламя. В спешке он разбил какую-то вазу, стоявшую на столе, поранил и ожег руки. Но хуже всего было то, что оказались испорченными многие деловые бумаги.

Растерявшись, новоявленный детектив с ученой степенью почувствовал себя самым заурядным воришкой, попавшимся с поличным. От страха у него даже озноб появился. Оставался один выход: позвонить домой Зарайскому, попросить, чтобы выручал. Что Лукашек и сделал.

— Адам Максимович, беда! — едва услышав в трубке голос директора, завопил он.— Приезжайте немедленно в институт, иначе не избежать скандала.

Зарайский, будучи человеком опытным, не стал уточнять по телефону подробности, лишь недовольно пробурчал:

— Не ори, сейчас вызову такси. И не вздумай никуда больше звонить.

Когда директор увидел несколько обгоревших бумаг, осколки вазы и разбросанные папки, он облегченно рассмеялся:

— Только и того? Из-за такой чепухи ты поднял вселенский шум?!

26

— Хорошо вам смеяться... А как же теперь мы все это объясним? — заикаясь, спросил Лукашек и подул на обожженные пальцы.

— Потерей бдительности хозяев кабинета,— равнодушно произнес Зарайский и, посмотрев на своего растерянного ученого секретаря, добавил: — Отправляйся домой и забудь о данном происшествии. Дня три на работу не выходи, отключи домашний телефон. Остальное тебя не касается.

Ответ вполне устраивал Лукашека. Он знал: шеф что-нибудь придумает, выкрутится, не такие пожары ему случалось гасить.

Как потом рассказали Лукашеку, Зарайский устроил лютый разнос хозяевам кабинета, которые, мол, забыли, уходя с работы, выключить настольную лампу. То ли порывом ветра ее опрокинуло на бумаги, то ли еще как-то... «Хорошо, что директор в тот вечер задержался в институте и заметил, что из-за двери у этих растяп тянет дымом,— рассказывали Лукашеку сотрудники,— иначе большая беда могла случиться. А так ничего, обошлось...»

Лукашек, слушая, только глазами моргал и еще большим уважением проникался к своему шефу.

Так вот, проникнув вечером в кабинет Бульбянова, Лукашек без труда нашел в его сейфе диссертацию Крайновой. К обложке была подколота стопка написанных его рукой бумажек. Семен переснял их и назавтра явился к Зарайскому.

— Дело сделано, Адам Максимович.

— Давай.

— Еще не успел проявить пленку. На днях сделаю.

— Много?

Чего?

— Записей.

— Когда фотографировал, Адам Максимович, было одиннадцать страниц. На полях пометок нет, только закладки.

— Что он пишет?

— Не читал. Оно, конечно, все просто, но все равно нервотрепка. Сами понимаете.

— Понимаю. Постарайся не запороть негатив и не устроить очередной пожар. Ты у нас по пожарам бо-ольшой специалист.

Шутить изволите?.. Постараюсь завтра принести, Адам Максимович. А о той истории лучше не вспоминайте, до сих пор на сердце кошки скребут.

— Не обижайся, Семен,— доверительно сказал Зарайский (так он и обращался со своим секретарем — то с таской, то с лаской, и это помогало Адаму Максимовичу крепко держать его в руках).— Но всегда помни об осторожности и нашей с тобой особой ответственности.

— Разве вы в чем сомневаетесь, Адам Максимович? — прижал руки к груди Лукашек.

— Не сомневаюсь, а предупреждаю об осторожности,— еще раз повторил Зарайский.

На том они и расстались.

Лукашек, как и обещал, всю ночь просидел в ванной, где оборудовал себе фотолабораторию, и отпечатал снимки записей профессора Бульбянова. Отпечатки получились четкие, но читать их он не стал, поскольку смутно представлял вопросы, рассматриваемые в диссертации Инны Александровны Крайновой, да и вообще это его не касалось. Директор затеял, пусть он и разбирается.

Утром он карточным веером раскинул фотоснимки на столе перед Адамом Максимовичем.

— Все одиннадцать и негатив. Так что могу доложить: ваше задание выполнено.

Зарайский схватил снимки, нацепил очки и стал пристально всматриваться в текст. Прочитал одну страницу, вторую, третью...

В это время кто-то постучал в дверь. Зарайский бросил фотоснимки в ящик письменного стола, машинально произнес:

— Входите, пожалуйста.

На пороге появилась аспирантка Ирина Ярыгина.

Лукашек, по заведенному обычаю, немедленно удалился.

— Вызывали, Адам Максимович? — спросила Ярыгина.

— Есть к вам, Ирина Владимировна, один деликатный вопрос,— приглашая деушку жестом сесть, сказал директор и, не ожидая ответа, дополнил: — Он совершенно не касается вашей научной деятельности.

Статная и привлекательная, Ярыгина, отбросив взмахом головы нависающие на глаза волосы, загадочно улыбнулась.

— А я сейчас, Адам Максимович, кроме науки, больше ничем не интересуюсь. Ни чуточки.

В подтверждение своих слов она показала оттопыренный мизинец.

— Так уж я и поверил, чтобы такое очаровательное существо стало синим чулком.

Ирина засмеялась.

— Вы правы, Адам Максимович, до синего чулка мне далеко. Но работать очень... Ну, просто необычайно интересно. Конечно, я вас понимаю: многие мужчины думают — если девушка хоть немного привлекательна, значит, дура и у нее только танцы на уме...

— Что вы, Ирина Владимировна, наоборот, совсем наоборот, — всплеснул руками Зарайский. — Вот Инна Александровна Крайнова, тоже, кстати, очень даже симпатичная женщина... да... Симпатичная... А диссертацию сделала превосходную, можно сказать, талантливую. Надеюсь, так будет и у вас.

— Я тоже хотела бы на это надеяться, — улыбнулась Ярыгина. — Кстати, что вы хотели у меня спросить?

— Гм... Что?.. А вот что, милейшая Ирина Вла-

27

димировна. Не мешает ли кому-либо из наших ученых мужей ваша очаровательная красота спокойно работать?

— Откуда мне знать, Адам Максимович, такие тонкости? — пожала плечами Ирина. — По-моему, у нас здесь вообще все сухари и себялюбцы...

— Так уж и все, — лукаво заметил Зарайский.

Она на мгновение задумалась.

— Ну, может, и не все. Но исключений мало. Один — два человека, не больше.

— Любопытно, Ирина Владимировна, очень любопытно мне узнать, кто эти счастливцы?

Заинтригованная странным разговором, Ярыгина громко засмеялась.

— Одного назову не думая — наш профессор Бульбянов. Вот это мужчина, достойный самой высокой любви и почитания.

От неожиданности Зарайский даже привстал со стула. Ярыгина такую бурную реакцию восприняла по-своему, с чисто девичьей непосредственностью — мужская зависть. Неужто этот старый трухлявый пень еще тоже на что-то рассчитывает? Ну, дела...

Она наклонила голову и самым невинным тоном спросила:

— Мне можно идти, Адам Максимович?

— Разумеется, Ирина Владимировна, разумеется, — поспешно сказал директор. — Не скрою, мне так приятно было поговорить с вами.

— Спасибо, Адам Максимович, мне тоже, — не переставая улыбаться, поблагодарила аспирантка.

— Надеюсь, не обессудьте, вы не поделитесь ни с кем нашим разговором? Пусть это будет маленькая тайна...

— Мы же договорились, Адам Максимович, что не все красивые девушки дуры. Попадаются среди них и умные. Может, не очень часто, но...

«Молодец! — проговорил сам себе Адам Максимович, когда за Ярыгиной закрылась дверь. — Сообразительная особа. И пикантна, весьма пикантна! Ну и Бульбянов! — потирая от удовольствия руки, злорадно подумал он. — Это ты-то достоин великой любви и почитания? Ах ты, козел безрогий... Не успел кресло обсидеть, а уже в аморалку ударился. Ну, ничего, на этих делах не такие богатыри себе головы ломали, свернешь шею и ты...»

А Ярыгина пришла в читальный зал библиотеки и, раскрыв книгу, стала думать о своем разговоре с директором. Хорошо наслышанная о нравах в этой среде, она решила, что Зарайский сам не прочь за ней приударить. А как еще объяснить этот странный вызов, этот глупый разговор? Все мужики на один манер, все падки на красивых баб. Только ведут себя и добиваются своего по-разному, в зависимости от положения и возраста. Что ж, надо будет все это разжевать как следует...

### ГЛАВА ДЕВЯТАЯ

Это тихое и уютное место, казалось, соединило все прелести природы родного края. Оно особенно манило Нину Бульбянову в теплое летнее время и в самом начале осени. Сколько здесь, на берегу небольшой лесной речушки Камайки, было передумано ею, сколько прочитано книг. А иногда, как сегодня, хотелось только слушать тишину и молчать.

Наступал рассвет. Он был уже совсем близко. Где-то, пробуя голос, робко засвистели свои незатейливые песенки вечные трудяги-синички. В густых зарослях осоки, видать, спросонья, негромко пересвистывались кулички. Сырой туман, похожий на пылевидный дождичек, поднимался выше и выше. В сплошном его пологе образовались зеленые окна. Четче прорисовывались бесформенные деревья, напоминающие сказочные страшилища, неперегонки они спускались с пригорка к реке. Словно под умелой талантливой кистью художника заиграла водная гладь золотистыми бликами, в ее синеве, как в зеркале, отразились зеленые до черноты ели, голубоватые осины, сахарной белизны березы. От первых лучей солнца края облаков порозовели. Даже влажный от тумана песочный обрыв, где Камайка круто поворачивала в сторону, казалось, потеплел и задымился. Ожил, зазвенел птичьим перезвоном весь окрестный лес, наполняя воздух тонким и терпким ароматом сосновой смолы-живицы.

Нина вспомнила старую щемящую песню и вполголоса запела:

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Новыя згадкі з сабой прынясла.
Помніш, калі мы сустрэліс з табою,
Зорка Венера ўзышла...

Ирина Ярыгина, обняв подругу, тихонько подхватила:

З гэтай пары я пачаў углядацца
у неба начное ды зорку шукаў.
Светлым каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў...

Девушки сидели обнявшись под сосной, на крутояре; внизу под ними струилась речка, камешки на ее песчаном дне сверкали, как золотые самородки; к противоположному, пологому ее берегу подступал заливной луг с уже отросшей отавой; по лугу, высоко задирая красные ноги, ходили два аиста.

— Эту песню очень любит отец, — сказала Нина. — Он вообще обожает Максима Богдановича, знает наизусть чуть ли не все его стихи. Ну, почему, почему так несправедливо устроен мир. Он умер таким молодым... Как Лермонтов... А какие-нибудь сволочи, доносчики, палачи живут до ста лет и благоденствуют. Что это за проклятая закономерность такая, что чем человек ярче, талантливей, необычней, тем короче его жизненный путь...

**(Продолжение следует)**



*Хаця яшчэ бялее снег...* *Фота М. ХАМЦА.*

ПАДАННІ РОДНАГА КРАЮ

# ПАМЯНЯЎ

Ішоў адзін чалавек уночы дадому з Наваградка. Нагнаў яго ў лесе некі чалавек. Выбраны ён быў хараша, як пан, і за плячыма нёс двухрульнае ружжо. Падышлі яны трохі разам, пагутарылі, а потым пан і кажа:

— Замяняем на ружжы.

А ў таго чалавека быў некі зломак з аднэю руляю. Чалавек гэта паглядзеў на панскае ружжо і думае:

— Каб яго ліха не ведала, мусіць, дурны гэты пан, ці што? А не, можа, дзе ўкраў, што хоча гэтакае ладнае ружжо замяняць на зломак.

Падумаў ён гэтак, падумаў трохі, а потым-такі замяняў. Прыходзіць, гэта, ён дадому, запаліў агонь і хоча паставіць ружжо на покуць. Хатнія дзівяцца, што гэта ён робіць. Вот жонка і пытае яго:

— Нашто ты гэту падлу садзіш на свянцонае месца?

— Якую падлу? — вырачыўся чалавек.— Гэта ж не тое, што было; я ўжэ новае выменяў, ты толькі паглядзі, што за ружжо?

Што ты гаворыш? Разгледзься: гэта ж у цябе конская галёнка, а не ружжо.

Разгледзеўся чалавек, адно ж і папраўдзе ў руках яго конская галёнка. Выкінуў ён яе са злосці на двор. Назаўтра раненька схадзіў ён на тое месца, дзе мяняў ружжо, дак яно там і ляжала.

НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

## Сакавік

15/2. Хвядот.
17/4. Герасім Грачэўнік. Засеўкі.
**19/6. Язэп.**
22/9. Саракі, дзень сустрэчы птушак. Пліска.
24/11. Пачатак Пахвальнага тыдня. **Вербніца.**
25/12. **Звеставанне. Дабравешчанне. Гуканне вясны.** Міжблагавешчыны. Рыгор.
29/16. Пахвальная пятніца.
30/17. Аляксей Цёплы. Пахвальная, Мезіна субота.
31/18. **ВЯЛІКДЗЕНЬ** у каталікаў. Вербніца. Пачатак Вербнага, Страснога тыдня.

**Падрыхтаваў Алесь ЛОЗКА.**

* * *

Даты ў календары падаюцца па новаму і старому стылях: 15/2 — 15 сакавіка па н. ст. і 2 сакавіка па ст. ст. За старым стылем замацаваны святы праваслаўнага і ўніяцкага. за новым — каталіцкага календароў (выдзелена шрыфтам).

# КРОССВОРД

**Составил В. Евланов.**



**По горизонтали:** 5. Крупное водное пресмыкающееся теплых стран. 6. Участник самостоятельно действующего в тылу врага вооруженного формирования. 9. Металлическое изделие в форме полого усеченного конуса с подвешенным внутри стержнем. 10. Обличающая, бичующая ирония. 11. Южное растение с крупным, овальной формы ароматным плодом. 12. Специалист, занимающийся производством спирта и водки из хлебных злаков или картофеля. 17. Столярный инструмент. 18. Личность, особа. 19. Вертикальная часть здания, помещения. 20. Крупная змея семейства удавов. 23. Язык, относящийся к дравидийским. Официальный язык индийского штата Карматака. 25. Младший медицинский работник. 29. Вид легкоатлетических состязаний в беге. 31. Административно-территориальная единица в некоторых странах. 32. Стебли хлебных злаков, остающиеся после обмолота. 33. Раздел механики. 34. Знак в виде креста с загнутыми под прямым углом концами. 35. Двуплечий рычаг.

**По вертикали:** 1. Сочетание нескольких музыкальных звуков различной высоты, воспринимаемых как звуковое единство. 2. Типографская строкоотливная машина. 3. Рыболовная снасть в виде длинной лески с несколькими крючками для ловли без насадки. 4. Представитель отряда водных млекопитающих, обитающих в теплых морях и некоторых реках. 5. Шутка, основанная на комическом использовании сходно звучащих, но разных по значению слов. 7. Роман И. С. Тургенева. 8. Короткое толстое бревно. 13. Подразделение акта в драме. 14. Название смерча над сушей в Северной Америке. 15. Крупная водоплавающая птица с длинным клювом. 16. Действительность в ее развитии, движении. 21. Колючий кустарник с мелкими красными кислыми ягодами. 22. Прибор для измерения атмосферного давления. 24. Мера объема сыпучих и жидких тел. 26. Род густой массы различного состава, применяемый в технике. 27. Совет кардиналов, избирающий римского папу. 28. Статуя, колонна громадных размеров. 30. Сельскохозяйственное орудие для мелкого рыхления почвы.

*Бянь Чжичжун*

# Даосская оздоровительная система



**(Продолжение. Начало в №№ 41—49 за 1990 г., №№ 1—9 за 1991 г.)**

**19**

**Десятый вариант: «Удар по драконовому усу»**

1. Исходное положение. Встать свободно, потереть ладонь о ладонь перед грудью так, чтобы они стали горячими.
2. Подушечками пальцев похлопывать по лицу около 1 мин. (рис. 17).

От ударов пальцев кожа лица как бы оживает, улучшается циркуляция крови, оживляется деятельность клеток. Этот вариант предупреждает и лечит парез, дрожание лица, делает кожу лица здоровой и красивой, Он, кроме того, и для пальцев: лечит их онемение, снимает боли в руках, их дрожание, улучшает циркуляцию крови.



Рис. 17



Рис. 18



Рис. 19

**Одиннадцатый вариант: «Поглаживание уха феникса»**

1. Исходное положение. То же, что в варианте «Удар по драконовому усу».
2. Горячими ладонями потереть уши 8 раз — вперед-назад (рис. 18). Обратить внимание на то, что при движении назад следует прикладывать больше силы. Затем средним пальцем свернуть ушные раковины и прижать их к голове, указательные пальцы наложить на средние и трижды помассировать уши движением вниз (рис. 19).

Этот вариант воздействует на биологически активные точки лица и ушей. Он предупреждает и лечит глухоту, шум в ушах, воспаление среднего уха, повышает остроту слуха, улучшает умственную деятельность.

**Двенадцатый вариант: «Поглаживание головы дракона»**

1. Исходное положение. Встать свободно.
2. Согнуть пальцы и провести ногтями по голове от начала волосяного покрова назад, как бы причесываясь, до шеи сзади 8 раз (рис. 20). Это упражнение предупреждает и лечит головокружение, воспаления носоглотки, эпилепсию, рвоту.



Рис. 20



Рис. 21



Рис. 22

**Тринадцатый вариант: «Поглаживание шеи»**

1. Исходное положение. Встать свободно: левую руку положить на затылок и производить потирание справа налево 8 раз (рис. 21). Затем то же делать правой рукой, но слева направо (рис. 22).

Этот вариант предупреждает и лечит психические заболевания, боль в затылке, слабое зрение, подергивание мышц лица, инсульт.



Рис. 23



Рис. 24



Рис. 25

**Четырнадцатый вариант: «Великое поглаживание»**

1. Исходное положение. Встать свободно, руки перед грудью.
2. Потереть ладони одна о другую. Затем теплой ладонью одной руки произвести поглаживание кисти другой руки (не забывая про межпальцевые поверхности), предплечья, как при мытье (рис. 23—25).

Это последний вариант упражнения «Возвращение детства». Потирание рук друг о друга воздействует на биологически активные точки на верхних конечностях, поэтому он предупреждает и лечит потливость рук, их дрожание, судороги, боль и ломоту.

*(Продолжение следует).*

Рэдактар В. М. ГАРАЧКА



«Навіны Беларускай акадэміі» — штотыднёвая газета Акадэміі навук БССР

Выходзіць раз на тыдзень.

Пры передруку просьба спасылацца на «НБА».

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220072, г. Мінск, 72, Ленінскі праспект, 66. пакоі 414, 415, 417

ТЭЛЕФОНЫ: рэдактара — 39-46-12, аддзелы — 39-49-19. 39-54-51.

Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МППО імя Я. Коласа.

Падпісана да друку 13.03.91 г.

Тыраж 2700 экз.

Індэкс 64106

*Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.*

Зак. 1719.